# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 35 (1018) ГОД XX 31 ЖНІЎНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.




*За рулём экскаватара „ЭТЦ“ Юрка Марчук. На пярэднім плане дрэнажныя трубкі пракладвае Аляксей Максімюк*

Новыя вершы

## ВЕСТЭРПЛЯТЭ

*Янку Брылю*

Праз гэтыя вокны яны першымі ўбачылі Пачатак.
Па гэтых сходах яны першымі збягалі ў яе, —
У другую імперыялістычную, —
Першыя яе ахвяры,
Першыя яе палонныя,
Першыя героі.
Ледзь прыхопленыя пазалотай ранняй восені,
Трава, лістота, сама зямля твая, Вестэрплятэ,
Гарэла ў полымі,
І не было тут жывога месца,
Адно чорныя асмалкі абсечаных снарадамі ствалоў.
Дрэвы, трава, зямля выгаралі да тла, —
Абаронцы — выстаялі.
І гэта быў таксама Пачатак — Канца.
„Вучыцеся, як змагацца, у гэтых салдат!“ —
Распінаўся фашысцкі ваяка,
Ды захопнікі не маглі навучыцца гэтаму
Ні пад Брэстам, ні пад Масквой, ні пад Ленінградам.
А на выгаранай зямлі тым часам
Самасейны — мне кажуць — узняўся гай:
Дубы, клёны, букі...
Самасейны?..
Магутны, шырокі, разложысты дубе,
Ці не як маёр Сухарскі,
Ты выйшаў на ўзлесак
З высока ўзнятым чалом,
Перад якім нават вераломны вораг
Схіліўся ў подзіве,
Вяртаючы ў рукі палоннага шаблю?
А вы, вясновыя букі і клёны,
Ці не зялёным войскам пасталі вы,
Усе, нібы ў нявыцвілых канфедаратках, —
Гатовыя заўсёды бараніць
Водгулле партовага рабочага рытму,
Зямлю, з якой зрасліся каранямі,
Моркі блакіт, на які кладуцца вашы
светлазялёныя цені?..
Вестэрплятэ!..
Тут, дзе насмерць стаяў салдат,
Дрэвы і травы не прараслі самасеем, —
Яны прараслі Мужнасцю.

**Алег Лойка**

НА НІВЕ АСВЕТЫ

## ВЕДЫ І НАСТОЙЛІВАСЦЬ

На панадворку, вакол саліднага бетоннага падмурка, стаяць штабелі цэглы і іншых будаўнічых матэрыялаў. Трохасабовая сям'я Целушэцкіх сама пакуль што займае двухпакаёвае памяшканне, абсталяванае ў новым мураваным будынку, што пасля іх пераходу ў новы дом стане г.зв. летняй кухняй ды схоўкам на ўсялякую гаспадарчую дробязь. У цяперашнім памяшканні, праўда, цеснавата, але акуратна і ўтульна.

— Маё жыццёвае правіла — гэта авалодаць па магчымасці глыбокімі ведамі ў тых галінах, дзе даводзіцца мне працаваць, — прызнаецца дырэктар школьніцтва ў гміне Нараўка, магістр інжынер **Васіль Целушэцкі.** — А мая праца вымагае ўсебаковай і грунтоўнай падрыхтоўкі.

Паходзіць В. Целушэцкі з сялянскай сям'і з вёскі Новае Ляўкова. Тры яго сястры павыходзілі замуж. Цяпер вядуць разам са сваімі мужамі гаспадаркі. Васіля ж запаланіла вучоба.

— З прыемнасцю ўспамінаю ўрокі майго самага любімага настаўніка Міхала Івацька, што вучыў мяне ў Ляўкове, а затым беларускай мове ў Педагагічным ліцэі ў Бельску. Ён зашчапіў нам любоў да роднай мовы, навучыў шанаваць яе, ганарыцца ёю...

В. Целушэцкі адразу пасля заканчэння педагагічнага ліцэя пайшоў працаваць настаўнікам. Пачаў жа свой настаўніцкі шлях у 1953 г. у Вярхлессі на Сакольшчыне. Быў адзіным у школе кваліфікаваным педагогам. Выкладаў

(Працяг на стар. 2)



Пуцяводныя думкі

Калі б кожны чалавек на кавалку зямлі сваёй зрабіў бы ўсё, што ён можа, як цудоўная была б зямля наша!

*А. Чэхаў*

## КАБ ШУМЕЛА МОРА ЗЯЛЁНАЕ

Раённае меліярацыйнае прадпрыемства ў Бельску Падляшскім дзевятнаццаць год памяшчалася ў прыватных кватэрах на вуліцы Пушкіна. Толькі ў 1964 годзе атрымала свой уласны „панадворак“, з якога пачало рабіць усё большыя ды большыя крокі. У апошні год дасягнула яно 80 мільёнаў злотых перапрацоўкі.

Ужо сем гадоў гэтае прадпрыемства знаходзіцца ў авангардзе Ваяводскага аб'яднання воднага будаўніцтва і меліярацыі ў Беластоку. Аб гэтым сведчаць многія дыпломы і два сцяжкі, атрыманыя на ўласнасць. Апрача таго, за дадатковую прадукцыю ў 1973 г. атрымала яно дыплом прызнання, падпісаны І сакратаром ПАРП Эдвардам Геркам і прэм'ерам Пятром Ярашэвічам, а ў 1974 г. за шматгадовую плённую працу — знак „Заслужаны для Беласточчыны“. Згодна з інфармацыяй намесніка дырэктара Анатоля Панасюка, механізацыя работ меліярацыйнага прадпрыемства дасягае аж 95 прац. Асноўным абсталяваннем з'яўляюцца: экскаватар „ЭТЦ“, дрэнажныя агрэгаты

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

**Гэта залежыць ад нас! ● Заязджайце ў „Падлясянку“! ● Ляўцтва ● Горад беларускіх нафтавікоў ● Літаратурная старонка ● Чаму гэта так? ● Беларускія песні ў Татрах ● Каб зямля твае косці выкінула ● Весткі з Дубіч Асочных, Зубава, Храбалоў, Сухога Груду, Ляшукоў, Паўночнага Вострава, Іванава, Крынак, Галадоў ● Калі прысніцца падарожжа заграніцу ● Песня „Черемшина“.**




# Дзённік агента ЦРУ

Ён не нізкі, не высокі. Шэры пінжак, рагавыя акуляры, масіўны партфель. Можна прыняць за універсітэцкага прафесара, а можна і за бізнесмена. У знешнім аблічча няма нічога, за што зачапілася б вока. Але Філіп Эйджы — сёння фігура прыкметная· Прэса змяшчае яго фота і артыкулы пра яго. Калі ў кніжным магазіне на Бэйсуотэр я спытаў „Дзённік агента ЦРУ“, мне адказалі: „Раніцай прадалі апошні экземпляр. Заўтра паступіць новая партыя“. Філіп Эйджу — аўтар бестселера. Яго кніга атрымлівае ўсё большую папулярнасць, ходзяць чуткі аб здымках фільма па ёй.

„Дзённік выйшаў у Англіі, Канадзе, Італіі, Даніі, ФРГ, Турцыі, Грэцыі, у краінах Лацінскай Амерыкі... Па меры таго, як кніга выдавалася ў адной краіне за другой, ЦРУ, як пішуць газеты, адклікала многіх сваіх замежных супрацоўнікаў, чые імёны сталі вядомы дзякуючы Эйджы. Не надрукаваны „Дзённік“ толькі ў Злучаных Штатах. Дырэктар ЦРУ Уільям Колбі папярэдзіў: будзе зроблена ўсё, каб кніга Эйджы не ўбачыла свет, а супраць аўтара, напэўна, распачнуць судовую справу.

Чым растлумачыць такую рэакцыю? Пра ЦРУ ж напісаны горы кніг. Сярод аўтараў ужо сустракаліся і былыя агенты гэтай арганізацыі. Аднак большасць работ, нават востракрытычных, толькі выражала незадаволенасць правiламі ЦРУ, „грубай работай“, недальнабачнасцю шэфаў. У канчатковым выніку мэта гэтых кніг — пакончыць з „недахопамі“, каб умацаваць ЦРУ. Філіп Эйджы заклікае пакончыць з ЦРУ наогул, прыводзіць імёны ўсіх, з кім сутыкаўся за гады сваёй службы, раскрывае тэхналогію тайных аперацый. Газета „Інтэрнэйшнл геральд трыбюн“ назвала яго кнігу „найбольш поўным апісаннем таго, чым займаецца ЦРУ за мяжой“.

Ён выдаваў сябе за дыпламата, на пасадзе аташэ ўдзельнічаў у арганізацыі „культурнай праграмы“ Алімпійскіх гульняў у Мехіка. Усё гэта было „дахам“, які маскіраваў яго сапраўдную дзейнасць: падкуп палітыкаў і журналістаў, пранікненне ў прафсаюзныя і маладзёжныя арганізацыі, падробліванне дакументаў, падслухоўванне тэлефонных размоў, чытанне чужых пісьмаў, вярбоўку інфарматараў. У Эквадоры ён удзельнічаў у аперацыях, накіраваных, на разрыў гэтай краінай адносін з Кубай. Ва Уругваі выконваў заданні па выратаванню прадажнага ўрада, які супраціўляўся даўно наспеўшым сацыяльным рэформам. У Мехіка перад ім стаяла задача вербаваць агентуру для ЦРУ.

— Працуючы ў ЦРУ, — гаворыць Філіп Эйджы, — ніколі ні з кім нельга быць шчырым і сумленным, акрамя як па „службоваму абавязку“. Пра людзей належыць думаць, як пра аб'екты, якіх трэба абвесці, ашукаць і так ці інакш выкарыстаць. І гэта працягваецца гадамі, з дня ў дзень, выклікаючы незвычайнае напружанне. „Свае“ — гэта добрыя хлопцы, сапраўдныя амерыканцы, людзі ЦРУ, а ўсе астатнія — „аб'екты“. Такое жыццё вымотвае духі. Але мне было 35 гадоў, сям'я на руках, выплаты за дом і машыну. Чым можа заняцца былы разведчык, пайшоўшы ў адстаўку, якую работу ён можа знайсці, калі пакінуў ЦРУ добраахвотна або пайшоў на разрыў? Некаторыя людзі не пакідаюць ЦРУ іменна з гэтай прычыны. Да таго ж яны зарабляюць тут, як прафесары, адвакаты або менеджэры. Але я ўсё роўна вырашыў пакінуць...

У жыцці Эйджы пачаўся новы раздзел. Завяршыўся ён кнігай „Дзённік агента ЦРУ“. (На вокладцы — фотаздымак партатыўнай пішучай машынкі. Кавалак матэрыі ў сярэдзіне футляра надарваны і бачны дэталі радыёперадатчыка — ЦРУ шпіёніла за сваім былым агентам). Разрыў з ЦРУ быў крокам і рашучым, і рызыкоўным. Эйджы не проста адыйшоў ад спраў, а кінуў выклік, выступіў у ролі выкрывальніка ЦРУ. Выпадак вельмі рэдкі.



КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

## Агні цырка

Той, хто бываў у Мінску, напэўна пераканаўся, што вечарам самым яркім пунктам горада з'яўляецца Дзяржаўны цырк. Перамігваюцца ілюмінацыі, заклікаюць неонавыя агні рэклам, — усё гэта стварае ў гэтым месцы Мінска сапраўднае зарыва.

Ды і сам будынак цырка — адзін з асаблівых у горадзе. Круглы, увянчаны велізарным купалам, ён выдзяляецца сваёй архітэктурай і мастацкім афармленнем. Што датычыцца яго памераў, дык яны таксама салідныя. Карысная плошча будынка складае 7 133 квадратных метра, вышыня купала 27 метраў. Глядзельная зала змяшчае 1 700 чалавек·

Тэхнічнае аснашчэнне цырка складаюць каля 300 пражэктараў, спецыяльныя электрагарматкі з ксенонавымі лямпамі, уласны электрацэх, радыёцэх, цэх уніформы для абслугоўвання прадстаўленняў, поўная радыёфікцыя. Ёсць сталярная майстэрня, слёсарная, пашывачная, мастацкая, шавецкая.

Якія цудоўныя тут створаны ўмовы для плённай працы і адпачынку акцёраў! Для іх тут ёсць 23 грымёрныя ўборныя, спартыўная трэніровачная зала, фае для рэпетыцый, душавыя пакоі, пакой адпачынку, двухпавярховая камфартабельная гасцініца на 160 месц. Для абслугоўвання артыстаў працуюць медыцынскі пункт і працэдурны кабінет з фізіятэрапеўтычным абсталяваннем, а таксама закулісны буфет з кухняй.

Не пакрыўджаны і чацверанотія партнёры акцёраў. Пабудаваны дзве канюшні для коней, памяшканне для сланоў, драпежнікаў, сабак і іншай дробнай жывёлы. На спецыяльнай кухні рыхтуюць ім ежу, а спецыяльны халадзільнік захоўвае прадукты ад сапсавання. Ёсць душ, дзе чацверанотім робяць туалет. І, зразумела, — ветэрынарны пункт на чале з ветэрынарным лекарам.

Вялікай гаспадаркай цырка кіруе зусім невялікая адміністрацыя: дырэктар, яго намеснік, маленькая бухгалтэрыя, галоўны рэжысёр, рэжысёр-інспектар, рэжысёр трэнер, галоўны мастак, балетмайстар. Ва ўсіх іх адзін клопат — як найлепш абслужыць гледача, даць яму як найбольш прыемных і вясёлых хвілін адпачынку. І трэба сказаць, работнікі цырка дасягаюць пастаўленай мэты.

На працягу кожнага сезона цырк паказвае ў сярэднім 4-5 цалкам абноўленых праграм. Гэта ілюзійныя атракцыёны, разнастайныя сілавыя нумары, дрэсіраваная жывёла, зверы, ды іншыя віды і жанры цыркавога мастацтва.

Цырк з'яўляецца агульнапрызнаным месцам адпачынку не толькі жыхароў сталіцы. На яго вячэрніх і дзённых прадстаўленнях часта можна сустрэць вялікія калектывы аматараў цыркавога мастацтва з многіх гарадоў і сёл рэспублікі — вучняў школ, студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў Гомеля, Брэста, Гродна, Магілёва, Віцебска.

„Нам прыемна праводзіць час адпачынку ў цырку. Мы прыходзім сюды і адчуваем сябе, як у добрым тэатры“, — напісана ў адным з шматлікіх запісаў у кнізе водгукаў наведвальнікаў цырка. І гэта сапраўды так. Тут для кожнага створаны такія ўмовы, тут так утульна і чыста, што ўсё гэта не можа не захапляць тых, дзеля якіх гэта створана.

У фае цырка сістэматычна дэманструюцца выстаўкі аб прадстаўленнях таго ці іншага цыркавога калектыву. Гарацць агні цырка. Ярка свеціць рэклама, запрашаючы аматараў цыркавога мастацтва на новыя цікавыя прадстаўленні.

**Сцяпан Каламіец**

(Працяг са стар. 1)

# ВЕДЫ і НАСТОЙЛІВАСЦЬ

беларускую мову. Потым два гады служыў у арміі· Пасля прыехаў на Гайнаўшчыну і ад таго часу ўжо не пакідаў родных аселіц. Вучыў у школах у Дубічах Царкоўных, Луцэ і ўжо 16 гадоў працуе ў Старым Ляўкове, а з 1972 г. з'яўляецца гмінным дырэктарам.

— Што ж, каб вучыць іншых, трэба самому многа ведаць. Гэта старая прыказка, але разумная. І яна стала для мяне пуцяводнай. У 1959 г. я закончыў аддзяленне музыкі і спеву на Завочнай настаўніцкай студыі ў Гданьску. Дыпломную працу напісаў на матэрыяле свайго асяроддзя — *„Арганізацыя працы ў хоры і яе ўплыў на цэласць працы ў калектыве“*. У той час пры школе ў Ляўкове арганізаваў я вакальна-музычны калектыў. Уваходзілі ў яго настаўнікі, сяляне, служачыя. У праграме былі беларускія, польскія і рускія мелодыі. Аб'ездзілі паў-Гайнаўшчыны, былі ў Крыўцы, Луцэ, Нараўцы, Белавежы, наведалі і былы Беластоцкі павет. На цэнтральным аглядзе БГКТ занялі першае месца.

Але гэтага было мне мала. У нас у школе была створана школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, і мне давялося яе ўзначальваць. Я паступіў у 1965 г. на завочнае аддзяленне Галоўнай школы сельскай гаспадаркі ў Варшаве. Закончыў яе са званнем інжынера ў 1970 г. Мая магістэрская праца *„Фактары, акрэсліваючыя поспехі і няўдачы вучняў прафесіянальных сельскагаспадарчых школ з вясковага асяроддзя“*, якую я абараніў у пачатку бягучага года, у многім абапіраецца на маім уласным педагагічным вопыце.

А вопыт у В. Целушэцкага значны: і ў педагагічнай дзейнасці і ў жыцці. Шматлікія партыйныя і грамадскія абавязкі, будова новага дома — і ўсё зроблена салідна, разважліва.

— Цяпер, калі мне даручана школьніцтва ва ўсёй Нараўчанскай гміне, кіруюся такім жа жыццёвым правілам з той жа прыказкі і буду намагацца, каб усе настаўнікі нашай гміны мелі вышэйшую адукацыю. Бо сёння праца ў вясковым асяроддзі вымагае гэтага. Зрэшты, працаваць на вёсцы — гэта гонар. А што пастанаўляю — заўсёды таго мушу дабіцца.

**М. Гайдук**
Фота аўтара




**Sobota — 30.VIII.** 14.50 Pr. I prop. 15.05 Pr. dnia. 15.40 Dziennik. 15.20 Obiektyw. 15.40 Inf., tow., prop. 15.50 Mistrz. Swiata w kol. 16.50 Za kierownicą. 17.20 Lekt. Pegaza. 17.35 Czarny tor — rep. 17.55 Kwadrans dla Krystyny Prońko. 18.20 Studio otwartych drzwi. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Operacja Święty January — film fab. 22.00 Pr. muz. 22.20 Dziennik. 22.45 Sport. 23.10 Waliza pełna snów.

**Niedziela — 31.VIII.** 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.40 W królestwie ducha gór — film fab. dla dzieci. 12.00 Dziennik. 12.25 Tydzień. 13.00 Pr. estrad. dla dzieci. 13.50 Cyrk wita gości — pr. rozr. 14.35 Los. Toto-Lot. 14.50 Radar. 15.20 Bank Miast — Kowary — Głuchołazy. 16.30 Mistrz. Europy w wyścigach zaprzęgów konnych. 17.30 Drogi do ojczyzny — film dok. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 21.30 Bank Miast. 22.30 Festiwal Pios. w Sopocie. 23.15 Sport.

**Poniedziałek — 1.IX.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.45 Echo stadionu. 18.05 Pol. Film Dok. 18.50 Mam pomysł. 19.10 Wys. Amb. DRW. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV — Jerzy Antczak „Epilog Norymberski". 22.45 Dziennik. 23.05 Sport.

**Wtorek — 2.IX.** 16.20 Pr. dnia. 16.25 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Jak patrzeć na dzieło sztuki — Jacek Malczewski. 17.30 Nie tylko dla pań. 17.55 Studio Mł. 18.45 Fakty, Op., Hip. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Dobry wieczór lato, dobry wieczór miłości cz. I flimu fab. węg. 21.55 Pr. publ. międzynar. 22.25 Dziennik. 22.45 Sport.

**Środa — 3.IX.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.25 Mecz piłki nożnej — Kadra — Woroszyłowgrad. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Dobry wieczór lato, dobry wieczór miłości — film fab. węg. cz. II. 21.50 Czym żyje świat. 22.20 Miniatura Dramat. „Przykra historia". 22.40 Dziennik. 23.00 Sport.

**Czwartek — 4.IX.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.10 Naczelny dowódca — film dok. 18.40 Anatomia sukcesu. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Teatr Sensacji — E. Crispin „Epilog na śmierć nieszczęśliwej damy". 21.25 Pegaz. 22.10 Dziennik. 22.30 Sport. 22.40 Pr. dla melomanów.

**Piątek — 5.IX** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.35 Zrób to sam. 18.00 Inf. Wyd. 18.15 Mała Encyklop. Zwierz. — film ser. fr. 18.50 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Babie lato — film fab. 21.10 Panorama. 21.50 Żywoty instr. pr. muz. 22.55 Dziennik. 23.20 Sport.




**Piątek 29.VIII** — Film fab. 16.45 Film dok. 17.45 Film fab. 19.30 Koncert. 21.00 Boks.

**Sobota 30.VIII** — 9.10 Spektakl. 11.15 Spiewa zespół „Gordieła" 13.15 Film fab. 17.25 Piosenka — 75. 17.45 Film fab. 19.30 Boks. 21.00 Śpiewa M. Łajfierowa.

**Niedziela 31.VIII** — 9.00 Spektakl. 12.40 Pr. muz. 14.25 Panorama międzynar. 14.55 Film fab. 16.15 Filmy anim. 16.40 Klub film. 17.40 Film fab. 19.30 Spektakl moskiewskiej operetki.




**Białowieża** To ja zabiłem — pol. 2—3. Porozmawiajmy o kobietach — USA 4—5. Płonąca tajga — radz. 6—7.

**Czeremcha** Narkotyk — fr. 2—3. Raport 36 — kor. 6—7.

**Czyże** Bezdomny — buł. Hrabina Cosel — pol. 3—7.

**Dubicze Cerkiewne** Zuzanna i zaczarowany pierścień — NRD Dramat namiętności — kan. 3—7.

**Gródek** To ja zabiłem — pol. 6—7.

**Kleszczele** Czym mogę służyć — czes. 2—3. Szczęśliwego Nowego Roku — fr. 4—5. To ja zabiłem — pol. 6—7.

**Michałowo** Gra złudzeń — fr. 2—3. Goście — USA 4—5. Szach królowej brylantów — radz. 6—7.

**Narew** Zła noc — czes. Przygoda z piosenką — pol. 3—7.

**Nurzec** Byłam głupią dziewczyną — węg. 2—3. Weronika w kraju czarów — fr. 4—5. Kochankowie roku pierwszego — rum. 6—7.

**Orla** Dowódca łodzi podwodnej — radz. Wakacje we czworo — wł. 3—7.

**Suchowola** Walter broni Sarajewa — jug. Dziewczęta jak iskry — węg. 3—7.

B.Z.Graf. Zam. 2094. P-1.

*Наш каляндар*



## Сымон Баранавых

Нарадзіўся Сымон Баранавых (Сымон Якаўлевіч Баранаў) 1 верасня 1900 г. у вёсцы Рудкова на Уздзеншчыне. Пасля заканчэння пачатковай школы ў 1913 г. праторанным шляхам дзяцей вясковай беднаты пайшоў служыць парабкам у абшарнікаў. У 1920 г. ён быў прызваны ў Чырвоную Армію і ваяваў на розных франтах супроць белагвардзейцаў і іншаземных інтэрвентаў, што імкнуліся задушыць маладую Савецкую дзяржаву. Пасля трох год воінскай службы вярнуўся ў роднае сяло і адразу ўключыўся ў палітычную і грамадскую дзейнасць: працаваў у сельсавеце і камітэце ўзаемадапамогі, кіраваў хатай-чытальняй і навучаў непісьменных аднавяскоўцаў грамаце. Свой пісьменніцкі шлях, як многія яго сучаснікі, пачынаў ад допісаў у газеты „Чырвоная змена“, „Беларуская вёска“, „Крестьянская газета“. А першае апавяданне **„У млыне“**, што было змешчана ў „Чырвонай змене“ ў 1927 г., напісаў, калі закончыўшы падрыхтовачныя курсы на рабфаку ўжо быў студэнтам літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Пасля надта ўдалага дэбюта яго апавяданні ўсё часцей паяўляюцца ў часопісах „Беларускі піянер“, „Іскры Ільіча“, „Маладняк“. А калі С. Баранавых быў яшчэ студэнтам чацвёртага курса, у 1930 г., выходзяць з друку тры яго кнігі: зборнік апавяданняў **„Злосць“** і дзве аповесці **„Чужая зямля“** і **„Межы“**. Усе яны прасякнуты глыбокай унутранай думкай і пачуццём, праўдзіва адлюстроўваюць эпоху, зрухі грамадскай думкі і канфлікты. Займальную аповесць **„Пастка“** адрасаваў у 1935 г. С. Баранавых дзецям, а ў 1936 г. выдае аповесць **„Новая дарога“**. Апошнім творам, які выйшаў з-пад пяра пісьменніка, быў раман **„Калі ўзыходзіла сонца“**.

Памёр С. Баранавых 10 лістапада 1942 г. у поўні росквіту свайго літаратурнага таленту. (іс)



## ВОЗЕРА ЯЧНА

Яно з'яўляецца адным з прыгажэйшых азёраў на Сувальшчыне. Яго мела ўжо не быць. Энергетыкі, выкарыстоўваючы значную розніцу ва ўзроўні вады двух суседніх азёраў, хацелі пабудаваць тут электрастанцыю. Уначы, калі электраэнергіі ёсць удосталь, магутныя насосы пералівалі б ваду з Ячна ў вышэйшае возера, а ўдзень, калі наглядаецца дэфіцыт электраэнергіі, ваду спускалі б зноў у возера Ячна, і яна, праходзячы праз турбіны, вытварала б электрычнасць, якая паступала б у агульнадзяржаўную энергетычную сістэму.

Аднак пастаянны рух вады парушыў бы натуральную, незабыўную прыгажосць і цішыню гэтага кутка. На шчасце, прыхільнікам прыроды ўдалося пераканаць будаўнікоў і яны пакуль што адступілі ад свайго праекту. Возера Ячна надалей цешыць вочы многіх тысяч турыстаў, якія прыязджаюць сюды адпачываць.

**Тэкст і фота В. Р.**

*Чаму дзіця не вучыцца роднай мове?*

## Гурток БГКТ можа нямала зрабіць

Дарагая „Ніва“! Хачу і ад сябе сказаць колькі слоў у дыскусіі на старонках „Нівы“ наконт праблемаў навучання беларускай мовы ў школах Беласточчыны.

Мікалай Гайдук, памятаю, у сваім артыкуле „У чым прычына?“ заўважыў, што прычын заняпаду навучання беларускай мовы ў школах сабралася шмат. І трэба іх добранька разгледзець... Памятаю, як я, будучы ў другім класе, вывучаў беларускую мову ў гарадоцкай пачатковай школе яшчэ тады, калі не было на свеце ні „Нівы“, ні Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Вучыла нас настаўніца Дарашкевіч (зараз яна ў Ялоўцы), якая ад шчырай душы намагалася прысвоіць нам родную, беларускую мову ў яе літаратурным выглядзе. Нам жа, яе вучням, надта хацелася вучыцца ў гэтай настаўніцы толькі на выдатна! Мы не мелі беларускіх кніжак, беларускіх буквароў, якія потым завозілі з заграніцы, з Савецкай Беларусі. А вывучалі беларускую мову ўсе, нягледзячы на тое, хто да якой нацыянальнасці пачуваўся, бо ўсе мы ў штодзённым жыцці карысталіся гэтай моваю.

Значыць — надзвычай многа залежыць ад настаўніка, ці будзе выкладацца ў школе наша мова, ці не будзе!

У 1956 годзе арганізавалася Беларускае грамадска-культурнае таварыства, пачала выходзіць „Ніва“, потым — яе дадатак для дзяцей „Зорка“, Беларускія календары, кніжкі нашых аўтараў. Настаўнікі часта карысталіся гэтымі выданнямі ў навучанні беларускай мовы. Тады я быў ужо ў пятым класе, ад якога пачыналі вучыць і рускай мове, і нам, ведаючым беларускую мову, было лягчэй.

Школа будучыні — гэта сярэдняя школа. Відаць, стануцца імі цяперашнія зборныя школы ў гмінных мясцовасцях. Якое ж будзе месца беларускай мовы ў будучых сярэдніх школах? Заканчэнне ж гэтых школ будзе абавязковым. Ці наша мова застанецца незаўважанай у навучальных праграмах будучых сярэдніх школ на Беласточчыне? Варта задумацца над гэтым пытаннем ужо цяпер, нічога не адкладаючы на пасля.

Дык вось, дарагія, давайце паразважаем над прычынамі, чаму беларускае дзіця не вучыцца роднай мове? І чаму гэтай справе мала прысвячаецца ўвагі ў арганізацыйнай дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Адзін са штатных работнікаў БГКТ (яго прозвішча не памятаю), будучы ў былым беластоцкім павятовым аддзеле таварыства, стараўся ўцягнуць як мага больш людзей у рады арганізацыі. Калі гэты самы работнік перайшоў на іншую працу, дык не толькі што не плаціў складчын, як член БГКТ, але і казаў, што цяпер яму гэта арганізацыя непатрэбная... Мне здаецца, што гурток БГКТ можа нават нямала зрабіць дзеля замацавання навучання беларускай мовы ў школе. Дастаткова нат і таго, каб члены БГКТ пасылалі сваіх дзяцей на ўрокі роднай мовы, якая цяпер, як ужо вядома, стала неабавязковай. Кожны член гуртка БГКТ павінен атрымоўваць канкрэтнае заданне для выканання і павінен потым даць справаздачу на сходзе гуртка аб тым, што ён зрабіў. Дзейнасць гурткоў не можа абмяжоўвацца адной мастацкай самадзейнасцю, яе пашырэннем. Дарэчы, калі б столькі было зроблена ў галіне замацоўвання навучання беларускай мовы ў школах, колькі зроблена ў галіне папулярызацыі мастацкай самадзейнасці, дык справы з нашай мовай не стаялі б так дрэнна. Так думаю.

Сябра Ул. Сідарук у сваім артыкуле „Толькі супольна дасягнем мэты“, змешчаным у „Ніве“ ад 27 ліпеня, сцвярджае, што Міністэрства асветы павінна зноў увесці ў школы Беласточчыны прадмет беларускай мовы як абавязковы.

Па-мойму, лёс навучання беларускай мовы ў школах не можа знаходзіцца ў руках толькі дзяцей і іх бацькоў, якія нярэдка зусім не ведаюць або не цэняць уласнай нацыянальнай культуры, бо няма за імі вялікай традыцыі нацыянальнага побыту. Сябра Сідарук мае рацыю, калі даходзіць да вываду, што далей так не можа быць — трэба ліквідаваць балаган, у якім гібее прадмет беларускай мовы.

**Юрка Паплаўскі, Гарадок.**

## НАРОДНАЯ РАЗЬБА

Спецыяльнай выстаўкай каля 120 экспанатаў народнай разьбы адзначыў Беластоцкі акруговы музей сёлетні Міжнародны год аховы помнікаў старажытнасці.

— На выстаўцы паказаны некаторыя творы народнай разьбы з тэрыторыі трох ваяводстваў: Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага, — праінфармавала працаўнік музея **Б. Кестэніс-Студзінская.** — Гэта традыцыйная і сучасная разьба па дрэву. Яна выбрана з багатых збораў беластоцкага, ломжынскага, сувальскага і іншых музеяў, у тым ліку і з былога Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы, а таксама пазычана з прыватных калекцый. Яна розная па свайму характару: і сакральная і свецкая, і колішняя ананімная і сучасная, што нядаўна выйшла з-пад разцоў нашых народных разьбяроў. Ёсць тут бясцэнныя змуршэлыя прыроджаныя каплічкі з Кнышынскай пушчы, фігуркі журботнага Хрыста з ломжынскіх вёсак, абаяльная разьба У. Наумюка з Канюкоў ды многапастацёвыя кампазіцыі А. Бялака з Гайнаўкі. Найбольш каштоўныя з іх — гэта колішняя безыменная разьба з розных каплічак. Яна — сведка занікаючай багатай разьбярскай традыцыі на гэтых землях і патрабуе асаблівай апекі з боку ўсяго нашага грамадства як бясцэнная культурная спадчына, што мы атрымалі ад папярэдніх пакаленняў.

Наведвальнікі асабліва доўга затрымліваюць свой зрок на разьбе У. Наумюка, творцы, які ў сваіх працах ўвасобіў спецыфічны каларыт, уласцівы беларускаму насельніцтву Беласточчыны. Яго дзвюхгаловы „Пятро і Павел“, „Манах“ і іншыя захоўваюць тую задуменнасць і стройнасць постацей, што выводзіцца з традыцыйнай візантыйскай іконаграфіі, а кампазіцыя „Селянін са ступай“ праўдзіва перадае рысы калісьці ўласцівыя нашым ваколіцам. У. Наумюк любіць працаваць на цвёрдых гатунках дрэва: дубе і грушы. Вельмі тонка адчувае і па-майстэрску выкарыстоўвае фактуру гэтага матэрыялу. А. Бялак любуецца ў груповых кампазіцыях людзей і звяроў, падтрымоўвае мясцовыя белавежскія традыцыі народнай батлейкі. Разец яго ўпэўнены і дакладны.

У заканчэнні хочацца падкрэсліць, што Беластоцкі акруговы музей вельмі трапна выбраў тэму і матэрыял для выстаўкі ў Міжнародным годзе аховы старажытнасцей. Выстаўка яшчэ адкрыта, і яе варта наведаць ужо хоць бы дзеля таго, каб пераканацца ў багацці народнай творчасці нашых ваколіц.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*„Селянін са ступай“ У. Наумюка з Канюкоў.*



*Фігура са збораў былога Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы.*



*„Батлейка“ разца А. Бялака з Гайнаўкі.*



*Берагі свежавыкапанага меліярацыйнага рова ля вёскі Сакі раўняе бульдозерам „С-100“ Мікалай Цімашэвіч.*

(Працяг са стар. 1)

## Каб шумела мора зялёнае

(два трактары на гусеніцах і плуг „СП-2“), лугавыя трактары „ДТ“, карчавалка „К-ІАТ“ і розныя іншыя. У сярэднім у год працуе тут каля 290 рабочых, а ў сезоне — нават 450.

Ад верасня гэтага года распачне працу заходненямецкая машына для ўкладвання дрэнажных труб. За дзень яна будзе ўкладваць, не капаючы равоў, аж 15 км дрэнажных пластмасавых труб.

У апошні час праца ідзе на аб'екце Зубава. Маюць здрэнажаваць там 260 гектараў ворнай зямлі і пракапаць равы на лугах. Усё гэта замкнецца ў суме 3 мільёны 870 тысяч зл.

Наступны год распачнуць ад Храбалоў. Работы ёсць шмат. Запланавалі зрабіць у 1976 г. 3500 гектараў ворнай зямлі, 1000 гектараў лугоў і пракапаць равы, якія будуць адводзіць ваду.

**Міхась Шаховіч**
Фота **Я. Цялушэцкага**




## Жонка, дзеці, сабака і я

### (УЛАСНЫЯ ПРЫГОДЫ ПАД ЧУЖОЮ ГРУШАЮ)

На дварэ спякота, што ледзь стрымаць. Мухі ў суп і тыя, здаецца, ужо варанымі падаюць. Я са шкадобаю азірнуў пахіленыя каркі супрацоўнікаў рэдакцыі.

Натхненне выпаўзала на іх спацелыя спіны нерэгулярнымі, мокрымі з іржаўчынай плямамі. А я еду ў водпуск.

На сэйненскія азёры — падумаць толькі. На адзін успамін, здаецца, халодным півам у горла пырснула. „Адпачынак пад грушаю“ гэтакая штука называецца. Жывеш на вёсцы, у аднаго з гаспадароў, харчуешся ў рэстаране, загараеш і купаешся, дзе воку мілей — і ўсё гэта па турысцкай пуцёўцы, без ніякіх турботаў. Вось дзе знойдуцца тэмы, дзе пасыплюцца фельетоны.

„Галоўны“ аднак толькі махнуў рукою. Ну пра што ты там, браток, пісаць будзеш? Усё ж агульнавядома. Тут вада, там вада, крыху далей — яшчэ больш вады, а дзе-недзе палоска зямлі сухое, ды і тую турысты аваднямі абляпілі. А пра ўсялякае там кваканне жабаў, пра рыбу вялікую і маленькую, хлюпанне хваляў, каханне на пясочку ў лодцы ці ў крапіве прыбярэжнай ды іншую рамантычную дробязь мы ўжо не раз друкавалі — так што паперы проста псаваць шкада.

Нават трагедыі накшталт таго, што панаехаўшыя „дзікуны“ з мусу найсыцейшага дзядзьку паўсырым зжэрлі, не могучы нічога акрамя цвікоў ды мыла дастаць у мясцовай краме, — сёння нікому ўжо не навіна.

Ну што ж, прыедзем — убачым. А можа змей які вадзяны перада мною на тым возеры аб'явіцца, а можа карміць па-людску будуць — чаго ж на гэтым свеце не бывае!

Пазапіхаў я сваю сямейку з клункамі ўперамешку ў самаход, падпёр усю кампанію звязкаю вудачак, пасадзіў зверху сабаку, сам сеў за баранку — ну і рушылі. Сабака брэша, дзеці пішчаць, жонка сварыцца, матор гудзе, усё нармальна — так і прыехалі на месца.

Адразу ў гміну. Там нас пералічылі, запісалі дзе трэба, выдалі талончыкі на яду і адразу павялі на кватэру.

Ну, ведаеце, курорт — курортам. Кожная лапінка месца выкарыстана. Жывуць ва ўсіх пакоях, жывуць і ў хляўчуку, і ў куратніку, нават у агародзе, сярод гуркоў і памідораў нехта палатку паставіў — толькі дзве пары ног крыж на крыж тырчаць. Нам пашанцавала. Пакой з дзвярыма на ганак, чатыры ложкі, да возера рукой падаць.

Толькі я аднак узяўся за пераноску багажа, калі з вакна, якое на той жа ганак выходзіла, высунуўся пунцовы ў крапінку жаночы твар, вочы колеру расолу з падквашаных гуркоў вырачыліся на нашага сабаку, і пунцовы роцік развёрся да таго, ажно гланды замільгалі.

„Пупсік! Пупсік! — гэтыя таксама з сабакам прыехалі. А ў нашага ж Рэкса псіхіка далікатная, ды і задзерці яго можа звярыска тое. Яны альбо мы. Калі не, дык збірай пажыткі — вяртаемся ў Варшаву“.

## МБМ будуецца

Не будуць больш стаяць сельскагаспадарчыя машыны на панадворках жыхароў Кожына. Неўзабаве яны знойдуць свой прытулак. У лесе за вёскай будуецца ўжо новы МБМ. Пад пабудову яго прызначылі даволі вялікі пляц, паверхня якога даходзіць да 1,2 гектара. Прыемна тут і прасторна. Работа таксама ідзе добра. А відаць гэта па тым, што зрабілі. Навокал залілі бетонны падмурак, у які ўмуравалі жалезныя слупкі. Засталося толькі прымацаваць драцяную сетку, і агароджа будзе гатовая. Недалёка ад будынка бюро, якое ўжо амаль што гатовае, знаходзіцца аўтамат для выдавання гаручага. Не трэба будзе бочкамі давозіць з горада гэтую жыватворчую ежу для трактароў. Усё будзе на месцы. Застаецца толькі чакаць, калі паселяцца тут першыя машыны.

**Міхась Шаховіч**
Фота **Я Цялушэцкага**



## УСІМ ТУТ БЫЛО ДОБРА

Сёлета ў Гайнаўскай гміне было арганізавана пяць вясковых дзяцінцаў: у школах у Махнатым, Барысаўцы, Новым Беразове, Дубінах і Арэшкаве.

Наведалі мы дзяцінец у Арэшкаве. Да 14 жніўня адпачывала тут 19 дзяцей. Заняткі цікава вяла з імі Раіса Галёнка — маладая жыхарка гэтай вёскі, студэнтка Варшаўскага універсітэта. Усе арэшкаўскія дзеці былі абяспечаны абедамі, якія смачна варылі А. Навацкая і Г. Шамборская.

Дзецям найбольш спадабаліся цікавыя казкі маладой выхавацелькі. Любілі яны таксама хадзіць у лес на экскурсіі, загараць на сонцы, спяваць ды забаўляцца цацкамі. Ніхто з дзяцей не сумаваў па маці, якая ў той час магла спакойна працаваць у полі. Таму ўсе бацькі ўдзячны за гэта апякунцы сваіх дзяцей і арганізатару дзяцінца — кааператыву сельскагаспадарчых гурткоў.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



## ВЁСКА БЕЗ САБАК

Вёска Мокрае з'яўляецца той дзіўнай мясцовасцю, у якой няма ніводнага сабакі. Ніхто тут не памятае, каб калі-небудзь хто з макрэнскіх гаспадароў трымаў у сябе сабаку. Ціха тут і небрахліва.

Думаю, што гэта невыпадкова: у Мокрым жывуць спакойныя і спагадлівыя людзі. Ніколі не здараліся тут зладзействы, пакражы... Хіба што часамі камусьці выбяруць агуркі або колькі галовак капусты... От, дзіцячая лакомлівасць або неразумны жарт ды столькі.

Вёска без сабак — усё ж немалая рэдкасць на Беласточчыне, ды не толькі ў Арлянскай гміне. (ся)




## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XX

**Сібірская ссылка.** Ужо ў вершы „Навокал“ паяўляюцца элементы баладнай атмасферы. Атмасфера балады з яшчэ большай згушчанасцю настрою выступае ў вершы „Завіруха“. Прадстаўлена тут адзінаборства чалавека са стыхіяй — снежнай завеяй. Завіруха выступае тут пад постаццю жывой, варожай чалавеку істоты. Гэта яна танцуе вакол чалавека і заклікае яго ў царства сну, гэта значыць у царства смерці.

*Завіруха-Рагатуха сыпле снегу*
*І ў прабегу шэпча ў вуха:*
*„Заначуеш — не пачуеш:*
*Я завею, я ўгрэю,*
*Зараз ляжаш, дзякуй скажаш“.*

Вандроўніку здаецца, што ён абараніўся ад завеі. Паявілася хатка з святлом у вокнах і дымам над дахам. Успомнілася радня. Драма заключаецца ў тым, што гэта толькі міраж, толькі перадсмяротны сон чалавека, завеянага снегам.

Трэба сказаць, што не ва ўсіх вершах пейзаж Сібіры прымае такі крайні, суб'ектыўны выгляд. У некаторых творах бачым карціну намнога больш аб'ектыўную. Прыкладам можа быць верш „Восень“. Праўда, і гэты верш утрыманы ў сумным песімістычным настроі, аднак бачым у ім многа фактаў, якія адпавядаюць восеньскім рэаліям. Тут аўтар выступае як фатограф. І хаця выбірае ён для свайго аб'екту цёмныя колеры пейзажу, то ўсё ж такі не маем сумнення адносна таго, што ўсё ў гэтай фатаграфіі праўдзівае.

Выключную пазіцыю ў пейзажных сібірскіх творах Гаруна займае верш „Вясна“. У творы гэтым паэт забывае на момант аб сваёй праграме прадузятасці да прыроды Сібіры.

*Эх, вясна, вясна!*
*Як прыйшла яна,*
*Прынясла цяпла.*
*Наліла ў лугох*
*Снегавой вады,*
*Расцвяла ў лугох,*
*Распляла сады.*
*Прабудзіўся лес*
*На вясняны шум...*

Аднак паэт ненадоўга адступіў ад сваёй праграмы. У далейшай частцы верша ілюструе сумныя рэфлексіі, марыць аб страчанай айчыне, прагне да яе вярнуцца.

Пейзажныя і прыродныя элементы гэта толькі фрагменты сібірскіх вершаў Гаруна. Знаходзім у іх і іншыя праблемы. Адна з іх гэта ўплыў сібірскай ссылкі на духоўны стан чалавека. У вершы „Чаму з маленства, з ураджэнства“ Гарун піша:

*„У чужой краіне памалу гіне*
*За целам дух“.*

Паэт бачыць дэструкцыйны ўплыў няволі на фізічныя і духоўныя сілы чалавека. У вершы пад загалоўкам „У выгнанні“ Гарун падкрэслівае адчужджэнне ссыльнога, абыякавыя адносіны да яго з боку другіх людзей, бязмэтнасць жыцця, безнадзейнасць штодзённага побыту.

Да крайняга песімізму даходзіць Гарун ў вершы „З песняў няволі“.

*У гароце, у няволі,*
*Без поспеху, а паволі*
*Розум нешта ў нас выймае,*
*Душу смокча, выпівае*
*І за шыю душыць больна,*
*Што часамі аж міжвольна*
*З болю гэтага заплачаш,*
*Што аж сонейка не бачыш!*
*Мусіш ведаць, што мялеем,*
*Што паволі ўсе малеем,*
*Не жывем, але канаем, —*
*Зранку долы вымяраем*
*І надзею штодня губім,*
*Хоць, як жыццё, яе любім.*

У вершы гэтым бачым словы вялікага пратэсту супраць знішчальнага ўплыву няволі на чалавека і словы самаабвінавачання. Зняволены чалавек малее, мялее, губіць надзею. Усё гэта гаворыць Гарун аб сабе. Такім чынам як бы правярае сваю эмацыянальнасць, сваю сілу рэагавання, сваю здольнасць адчуваць, кахаць і ненавідзець. І хаця сам аўтар усумніўся ў жыватворчасці і сіле свайго духа, дык мы не сумняваемся ў яго здольнасці верыць, імкнуцца і змагацца.

## ВЕР-НЕ ВЕР

# КАЛІ ПРЫСНІЦЦА МЫЛА...

**Дарагі Астрон!**

Я ў клопаце. Здаецца, і не была я зайздросная ў адносінах да майго мужа, а вось паехаў ён у водпуск, і нейкія дзіўныя думкі пачалі хадзіць па маёй галаве. І сніцца так.

Быццам паехалі мы з мужам адпачываць разам. Нібыта адпачываць, нібыта ў камандзіроўку. Нейкі будынак ля самага мора, але мора не бачу. Бачу толькі вільготны пясок. Я занялася нейкай службовай размовай з людзьмі, а мой муж у той час знік. Пачынаю шукаць яго. Раптам паяўляецца нейкая жанчына. Ні старая, ні маладая. Ні прыгожая, ні брыдкая. Такая ніякая. Ведаю, што гэта з ёй мой муж быў у нейкім пакоі· Бачу, выходзіць і ён, толькі з другога боку (гэта, каб мяне ашукаць). Але я і так упэўнена, што яны былі разам. Пачынаю даследаваць справу, шукаючы яго слядоў на пяску, але ніякіх доказаў не знаходжу. Тады хапаю аднекуль мыла і са злосцю намыльваю твар спачатку той жанчыне, а пасля і мужу. Больш нічога не памятаю. Што ж гэта за сон такі? Гэтыя два намыленыя твары яшчэ і цяпер стаяць у маіх вачах.

**Ваша сталая чытачка з Сямяціч.**

Дарагая чытачка!

Не хвалюйцеся. Вы былі ў падарожжы, і чакае вас нейкая вялікая перамена. Мыла абазначае нейкае абнаўленне, імкненне да лепшага, поспех у справах! Не заўсёды тое, што ў снах выглядае грозным, бывае непрыемным наяву.

**Астрон**




У ЗДАРОВЫМ ЦЕЛЕ ЗДАРОВЫ ДУХ

# І пра ногі трэба дбаць

Як жа часта ў людзей бываюць занядбаныя ногі! Ды нават і ў людзей, што ўдзяляюць вялікую ўвагу свайму выгляду. А шкада.

Вядома, што ў летнюю пару ногі асабліва хутка пацеюць і стамляюцца. Таму трывалай прывычкай культурнага чалавека павінна быць штодзённае мыццё ног. Ногі, якія моцна пацеюць, найлепш было б мыць дэзінфіцыручым мылам „Ого", альбо дзёгцевым, серным ці дзёгцева-серным мылам. Дакладна высушыўшы ногі ручнікам, змазаць ногі спецыяльным крэмам „Ortoderma" альбо „Auto-Stop". Можна іх таксама змазаць ці спырснуць якой-небудзь супрацьпотнай вадкасцю. Калі пад рукой няма спецыяльнага мыла, ні крэма, дык варта, памыўшы ногі звычайным туалетным мылам, нацерці ступні саліцылавым спіртам.

Вельмі стомленыя, балючыя і набраклыя ногі трэба пасля вячэрняга мыцця папарыць у салонай, гарачай вадзе (1 лыжка солі на 1 літр вады), спаласнуць халоднай вадой і тады нацерці камфарным спіртам. Калі ногі стамляюцца пастаянна, трэба штодзённа парыць іх у салонай вадзе, дадаючы крыху воцату. Зразумела, што калі на нагах ёсць нейкія ранкі, пузыры, ці ногі сапрэлі, дык нельга прымяняць салоных ванначак. У такіх выпадках трэба рабіць ванны з марганцоўкай альбо напарам з ліпавага цвету ці рамонак. Сапрэўшыя месцы пасля гэтага трэба змазваць маззю з рыбяга тлушчу, пакуль гэтыя месцы не загояцца· Калі ж парабіліся пузыры, дык трэба пракалоць іх дэзінфіцыраванай над агнём іголкай і засыпаць парашком „Dermatol".

У некаторых людзей на ступнях (асабліва на пятах) робіцца вельмі цвёрдая скура. Тады трэба два разы ў тыдзень у час мыцця ног праціраць ступні даволі вострай пемзай (пумэксам). Калі ж аднак зацвярдзеўшая скура на пятах лопаецца і баліць — нельга ўжываць пемзы. У такім выпадку трэба штодзень парыць ногі ў напары ліпавага цвету і рамонак (жменя зёлаў на 3 літры вады), а абсушыўшы ногі, націраць тыя месцы, што палопаліся, маззю з рыбяга тлушчу ці „Dermosan".

Мазалі найлепш можна ліквідаваць, парачы спачатку ногі ў цёплай вадзе з распушчаным мылам, а пасля асушэння змазваючы іх спецыяльнай вадкасцю супраць мазалёў. Можна замест вадкасці выкарыстоўваць турыстычны пластыр.

Усе адзначаныя намі мазі і вадкасці можна атрымаць без рэцэпту ў аптэках і драгерыях. Трэба памятаць яшчэ, што цёплай парою года варта насіць сандалі і лёгкі тэкстыльны абутак, які дарэчы ў апошні час вельмі модны.

**Эскулап**

## Сардэчныя тайны

# Дарагое „Сэрцайка"!

Хачу расказаць табе аб сваім трагічным жыцці і прашу, парай, як паступіць, каб урэшце жыць па-чалавечы.

Ужо ў дзяцінстве прыйшлося мне многа пацярпець. Памерла мама і асталося нас трое сірат. Бацька хутка ажаніўся і мачыха выручалася мною ў рабоце, як найстарэйшай, як толькі магла. Час ішоў і ў 18 год пазнаёмілася я з хлопцам. Было гэта маё першае каханне, хадзілі больш года, мелі пажаніцца і вось мой каханы трагічна загінуў. А я асталася цяжарнай. Падгадавала ўжо дзіця і пасватаўся да мяне хлопец. Хутка скруцілі вяселле· Ён мне не падабаўся, але ці ж магла я пярэчыць? Паненка з дзіцём, добра, што хто-колеч трапляецца. Выйшла. І пачалося сямейнае пекла. Муж піў, прапіваў усе свае грошы, скандаліў, дзіця маё байструком называў. Цярпела, спадзявалася, але прамучыўшыся так пяць год, узяла развод. Працую, нядаўна атрымала добрую кватэру. І вось пазнаёмілася я з Міхасём. Ён кавалер, яму амаль сорак гадоў. Пачаў прыходзіць. Прыемна праводзім час, бо мужчына сур'ёзны, талкова гаворыць, на гарэлку, чаго я найбольш баюся, не ласы. Прайшло ўжо паўгода, як мы знаёмы, і цяпер сказаў ён мне, што няма чаго так хадзіць, трэба жаніцца. Але я баюся замуж выходзіць. Часам ужо здаецца, згаджуся, але як успомню мінулае, аж страсяне· Што мне, „Сэрцайка", рабіць, ці жыць далей самой, ці яшчэ раз выйсці? Парай! **Галіна з Б.**

**Галіна!** Перажыла ты ў жыцці многа дрэннага, дык як кажуць, апарыўшыся на гарачым, то і на халоднае дмухаеш. Гэта добра. Лепш пачакаць, чымсьці потым наракаць. Але выйсці замуж напэўна варта. Ты ж маладая, жыццё перад табой. Ды не ўсе ж мужчыны дрэнныя. Зрэшты, ты ж і сама аб жаніху добра гаворыш. Калі маеш нейкія сумненні, з шлюбам пачакай, час пакажа, ці варты ён твайго сэрца.

**„Сэрцайка"**



*Заказвала Дануta Дзямянчук з Беластока.*

ФОТА ПА ЗАКАЗУ

DAWID ESSEX

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Сёстры А. і В. мелі ў горадзе пляц. Яны падзялілі пляц без суда або натарыуса і кожная з іх карысталася сваёй часткай асобна, хоць у гарадской эвідэнцыі ён быў упісаны як супольная ўласнасць А· і В. Сястра В. абгарадзіла сваю частку і пасадзіла сад. У 1974 годзе гарадскія ўлады экспрапрыіравалі пляц. В. патрабавала ад улад, каб кампенсацыю, належную за сад і агароджу, выплацілі ёй, аднак А. супраціўлялася гэтаму. Таму грошы былі аддадзены ў судовы дэпазіт. Ці можа В. патрабаваць, каб суд выплаціў грошы з дэпазіту выключна ёй?

АДКАЗ: Грошы аддадзены ў дэпазіт на карысць А. і В. і толькі яны супольна могуць патрабаваць, каб суд выплаціў ім гэтыя грошы. В. можа звярнуцца да суда з патрабаваннем сцвярджэння, што сад і плот (кампенсацыяй за якія з'яўляюцца грошы, аддадзеныя ў дэпазіт) скла́ліся з яе працы і грашовых затрат. Толькі на аснове рашэння суда можа яна патрабаваць выплаты грошай, аддадзеных у судовы дэпазіт·



*Гусі на вуліцы ў вёсцы Зубава Бельскай гміны.* **Фота Я. Цялушэцкага.**




Валока чакаў іх, увесь ранак быў гатовы на горшае, і ўсё ж у гэтую хвіліну яны абрынуліся на байца неспадзявана. Ён асеў у дол, а Фрыц, крутнуўшыся да яго на цагляным абрыве, з радасцю на раптоўна ажыўленым твары крыкнуў:

— Іван! Іван! Ком!

І памкнуўся скочыць, каб бегчы туды, куды звалі яго таварышы.

— Стой! — не так гучна, але з нясконай рашучасцю прамовіў Валока. — Стой!

На момант на немцавым твары мільганула разгубленасць, нават боль, а можа спалох, затым ён узмахнуў у паветры рукамі і знік па той бок руін.

Валока таксама на момант быццам самлеў, разгубіўшыся ад такой нечаканасці, а затым, не зважаючы на сваю знямогу, прыпадаючы на рукі, бягом кінуўся наверх, туды, дзе знік Фрыц·

Хагеман далёка не адбег, вуліца таксама скрозь была завалена рэшткамі дамоў, і ён пералазіў цераз цагляныя глыбы якраз пад тым месцам, дзе з'явіўся Валока. Насупраць, па-над чыгуннай агароджай скверыка, адстрэльваючыся і прыгінаючыся, беглі немцы.

— Стой! — крыкнуў Валока, убачыўшы яго. — Фрыц! Стой!

Немец аж скалануўся ад яго голасу, прыўзняў галаву — твар яго, здалося Валоку, зморшчыўся, нібы ад болю. І немец на момант спыніўся, зірнуў на байца, затым — на скверык, дзе немцы — усе, колькі іх было, — прымарудзілі хаду, некаторыя выпрасталіся, здзіўлена ўгледзеліся ў іх двух. Але гэта толькі на імгненне. Зараз жа там загаварылі, і зычны камандзірскі голас, як бізуном, ляснуў па руінах:

— Хагеман, ком! Шыссен!

Фрыц кульнуўся цераз глыбу, што перагароджвала яго шлях да сваіх; а Валока, адчуўшы, што зараз усё скончыцца, але ўжо не думаючы пра сябе, а толькі з усяе свае ўпартасці не жадаючы аддаць ворагам гэтага чалавека, стрыкнуў па-над ім чаргою. Кулі з пералётам і недалётам, у розных месцах абсыпалі навокал яго руіны.

Тады немец яшчэ раз ускочыў, крутнуўся, зірнуў угору на Валоку — у яго вачах адбіўся ўжо страх і азвярэлая лютасць чалавека, у якога не было выйсця. Баец, сцяўшыся, упаў між ламачча, не зводзячы з немца позірку, і ўбачыў, як той ліхаманкавым рухам выхапіў нешта з кішэні, ірвануў другою рукой і, коратка размахнуўшыся, шпурнуў у яго. Яно, гэта невялікае і імклівае, чорнаю птушкай мільганула ў ранішнім небе і, не даляцеўшы да Валокі, гулка-коратка шчоўкнула.

„Граната"! — чамусьці са спазненнем бліснула здагадка, і Валока, адчуўшы канец і не маючы ні сілы, ні якое магчымасці ўратавацца, ірвануў да пляча аўтамат·

Чаргі ён, невядома чаму, не пачуў, у нейкую долю секунды згледзеў толькі, як апруцянела хіснуўся Фрыц Хагеман, і ў той жа час вышэй ад Валокі, ударыўшыся ў прасценак, аглушальна рванула граната. Гарачы імпэтны ўдар сцебануў яго па плячы, і зараз жа ўсё патанула ў пыле, які ўдушлівым воблакам накрыў байца.

Пыл яго і выратаваў.

Валока адчуў, як немцы ўдарылі з аўтаматаў, некалькі куль раскрышыла цагліны побач, але ён, прыгнуўшыся, з раптоўным спрытам ірвануўся назад, упаў, ускочыў зноў, перакаціўся цераз вялікі зломак, аббег глыбокую варонку, з якой яны толькі што вылезлі, і, запаволіўшы хаду, выбраўся з руін на закіданы друзам падворак. Па дарожцы, вымашчанай бетоннымі пліткамі, дабег да шнурка нейкай калючай загарадзі, прадраўся праз яе гушчар і, падлезшы пад прадраную драцяную сетку, апынуўся ў нейкім вузенькім незнаёмым правулку.

Яго адразу ледзьве не збілі з ног хлопцы-аўтаматчыкі. Гучна ляскаючы падэшвамі, яны шалёна беглі некуды, — мабыць, напярэймы тым немцам, што адступалі ад сквера. Задні страхавіта зірнуў на яго скрываўленую галаву, але змоўчаў, не сказаў нічога. Ён быў знаёмы, гэты хлапец з рабацінкамі на пераноссі і яснымі насцярожанымі вачмі, але Валока не здолеў прыпамятаць, дзе ён бачыў яго, і адчуў, як забалела параненае плячо.

Правулак быў вузенькі і зусім пусты. Валока паглядзеў у адзін канец яго, у другі, і, сцяўшы пад пагонам рассечанае асколкам плячо, хістаючыся, пайшоў туды, адкуль беглі аўтаматчыкі. Угары, у ясным вясновым небе, бахала, сіпела, калацілася гулкае рэха бойкі·

„Што ж гэта? Як жа гэта?" — толькі цяпер акрэслілася ў яго галаве яшчэ няўцямная думка-здзіўленне. Узрушаны і змардаваны, ён нечага ніяк не мог сцяміць ці, можа, не мог чагосьці ўспомніць — разгарачаным нутром ён толькі адчуваў, што сталася вялікая, яшчэ не ўсвядомленая да канца несправядлівасць, перад магутнаю сілай якой і ён, і Фрыц Хагеман былі бездапаможнымі. І яму было вельмі пакутна ад таго і хацелася завыць ад крыўды, якая ашчаперыла і душыла яго.

**Канец**

# ТРЫБУНА чытачоў

## Не ўсе дапамагалі — усе карыстаюцца

Два гады таму назад актыўныя гаспадары вёскі Астровак, што ў Шудзялаўскай гміне, загаварылі аб будаўніцтве дарогі ад шашы. У прадвесне або восенню немагчыма было праехаць у вёску. Калі на сходзе солтыс Т. Рысь гаварыў аб пабудове такой дарогі, дык не ўсе згаджаліся з ім. Былі і такія, якія цвярдзілі, што дарога непатрэбная...

За актыўным солтысам пайшла, аднак, большасць гаспадароў. Яны сваімі сіламі навазілі жвіру. Зрабілі гэта даволі добра. Толькі не пацікавілася гэтай ініцыятывай Павятовае праўленне дарог у Саколцы і таму па сённяшні дзень няма тут прапускных трубаў для вады.

Цяпер ужо не пачуеш у Астроўку, што дарога непатрэбная. Асаблівыя словы пашаны належацца солтысу і ўсім гаспадарам, якія ўзяліся за пракладку гэтай усім патрэбнай дарогі.

**Я. Бандарук**

## Несаламяная вёска

Кнаразы — вялікая вёска ў Храбалоўскай гміне. Вакол яе знаходзяцца вёскі Зубава, Плёскі, Рыпнева. У адлегласці аднаго кіламетра плыве рака Арлянка. Ад поўдня і захаду — узгоркі ды лясы.

Жыццё людзям ладзіцца па-новаму, культурна. На 112 жылых дамоў ёсць 25 тэлевізараў. Кнаразы даўно электрыфікаваны. У гэтым годзе адрамантавалі электрычную лінію. На кожным панадворку знаходзіцца электрычны матор, шмат сельскагаспадарчых машын. Некаторыя гаспадары маюць уласныя трактары. Пабудавалі новую злеўню малака і пажарніцкую рамізу ды святліцу. У Кнаразах многа моладзі, сярод якой вельмі многія вучацца ў розных школах.

Гэта прыгожая вёска, толькі няма да яе добрай дарогі. Прыгажосці дадаюць ёй дрэвы і буйная зеляніна, а таксама добраўпарадкаваныя сялібы — усе дамы, хлявы і клуні крыты чарапіцай, этэрнітам або бляхаю.

**Жэня Андрэюк**




## Беларускіе дзяўчаты

*Беларускія дзяўчаты*
*Усе прыгожанькія.*
*Калі іх цалуеш,*
*Як мёд салодзенькія.*
*Чуваць іх галасы*
*У вечары пагодныя.*
*Шуміць, як жыта каласы,*
*Песенька народная.*
*Беларускія дзяўчаты!*
*Вы, як ружы цвет,*
*І песнямі багаты*
*На цэлы, цэлы свет.*

**Аляксандр Раманюк,**
Дубяжына.

## Роднай староны

Няма нічога даражэй,
Няма нічога прыгажэй
За родную краіну
І родную мясціну.

Бо ці ў свеце ёсць
Хоць адзін такі хтось,
Што хоць на гадзіну
Забывае пра сваю радзіму?!

Мы тут дзяцінства правялі,
З кожнай радасцю прыходзілі сюды,
Кожну злосць расказвалі табе
І тады станавілася лягчэй.

Тут мы плакалі, спявалі,
Тут з табою танцавалі
Ты была нам і букетам
Ты была нам цэлым светам.

Ты была нам шчасцем і будзеш ім
Мы ніколі не забудзем аб тым,
Бо ўсе найпрыгажэйшыя ўспаміны
Выводзяцца з роднай краіны.

**Валя Аніщчук,**
Гайнаўскі беларускі ліцэй.

## Сам будуе абору

Малады хлопец Вася Данелюк з Чыжоў, закончыўшы пачатковую школу, застаўся з бацькамі на гаспадарцы. Каб павялічыць жывёлагадоўлю, пачаў ён будаваць тыповую абору з пустакоў. Ужо паставіў зруб, а ў сярэдзіне будуе калідор і перагародкі стойлаў. Вася лічыць, што да восені закончыць пабудову аборы і, такім чынам, скарыстае ён з інвестыцыйнай ільготы, якую дзяржава прызнае на такое будаўніцтва.

Ён усё робіць сам. Работа маладога майстра-самавука з'яўляецца дакладнай і чыстай. Аж прыемна паглядзець!

**Я. М.**

## Малая праблема вялікай вёскі

Вёска Краснае Сяло, што ў Боцькаўскай гміне, налічвае каля ста дваццаці гаспадароў. Людзі тут працавітыя, дбайныя. Пасля вайны пабудавалі вясковую вуліцу, святліцу. Шмат дапамагалі ў электрыфікацыйных работах. Жывуць няблага. Маюць усенька патрэбнае чалавеку ў сучасным жыцці: халадзільнікі, тэлевізары, сціральныя машыны... Будуюць сабе мураваныя дамы, стаўляюць жалезныя, аздобныя вароты. Магло б здавацца, што ў Красным Сяле няма надакучлівых праблемаў і турбот.

Ды ёсць тут праблема, якой ніхто не можа вырашыць. Менавіта: у 1965 годзе вуліцу прадоўжылі амаль на дзвесце метраў. Жыхары Краснага Сяла пастанавілі тады пабрукаваць яе да канца. Пачалі звозіць каменне, жвір, рабіць падсыпку. І калі ўсё было гатовае, выявілася, што няма брукароў. Гэтай справы гміна ў Боцьках не вырашыла па сённяшні дзень. Аб гэтай справе солтыс Краснага Сяла Аляксандр Кандрацюк і начальнік пажарнікаў А. Ляшкевіч не раз гаварылі на сесіях боцькаўскай рады нарадовай.

Мінула ўжо столькі гадоў... Звезеныя каменні зарастаюць зеллем, жвір размываюць дажджы, — прападае людская праца. Як доўга можна цярпець такое марнатраўства?

**(к-ус)**

## ГАЛЯ КІЦЭЛЬ



Галю Кіцэль з Чыжыкаў ведаюць і паважаюць не толькі як добрую сяброўку, але і як актыўнага арганізатара культурна-асветнага жыцця ў асяроддзі. Члены мясцовага гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства выбралі яе сваім старшынёю. Гурток БГКТ супрацоўнічае з ЛЗС, які гуртуе вясковых спартсменаў. Дапамагаюць Галі такія актывісты спорту, як Зіна Белавежац, Анатоль Койла, Іван Кіцэль, Міша Карпюк, малады солтыс Валодзя Асіпюк і іншыя.

**Б. В.**

## Вясковыя пасбішчы -гэта марнаванне зямлі

Хачу пагаварыць аб адной справе, якая выступае ва ўсіх гмінах нашага ваяводства.

Ліквідуючы ў гадах 1950-1960 цераспалосіцу, калі яшчэ і гутаркі не было аб развіцці жывёлагадоўлі, улады прыхіляліся да просьбаў гаспадароў, каб пакідаць вясковыя пасбішчы. Тады карова давала ў суткі па пяць літраў малака.

У Гайнаўскай гміне каля дзесяці вёсак маюць такія пасбішчы, з якіх невялікая карысць. Добрыя гаспадары не пасуць на іх свайго быдла, бо травы там, што кот наплакаў...

У Дубінах ёсць каля дваццаці гектараў вясковага пасбішча. Зарастае яно пустазеллем, і каровы не маюць чаго на ім есці. Ва ўсёй жа Гайнаўскай гміне гэтакіх пасбішчаў збярэцца каля двухсот гектараў. Пустуюць гэтыя прывясковыя землі. Трэба іх неяк загаспадарыць, каб была карысць нашай жывёлагадоўлі. Пакідаць гэтыя пасбішчы было б звычайным марнатраўствам!

Імі павінна зацікавіцца перш за ўсё наша сельскагаспадарчая служба, аграномы і жывёлаводы.

**Раса**

## ЦЯЛУШКАМ МАЛА ЗЯМЛІ

Гутару з Ёсіпам Балыгай, які ў Цялушках жыве на невялікай гаспадарцы.

— Вось, жыву я на малой частцы зямлі, бо маю яе ўсяго два гектары і дзесяць сотак, — кажа Ёсіп Балыга. — І так я ні гаспадар і ні батрак, а жыць трэба. Маю на ўтрыманні досыць вялікую сям'ю: чацвёра дзяцей і швагерка (сястра жонкі). А заробкаў у Цялушках няма ніякіх. Ад 1972 года ў нас ужо няма цераспалосіцы, дасталі мы „калёніі“. Жыццё нібы то палепшала, але і бяды дабавілася: дзеці пападрасталі, вучыць іх трэба, і даць ім на дарогу... Без школы ж цяпер — нікуды!

Адна дачка закончыла гастранамічную школу і працуе ў студэнцкім доме ў Беластоку, на Кракаўскай; другая ж вучыцца ў другім класе Бельскага беларускага ліцэя, а трэцяя закончыла пачатковую школу ды сядзіць дома. Сын таксама кончыў пачатковую...

— А чаму ж вы не стараецеся ўзяць больш зямлі, якой зараз поўна ўсюды, — пытаю я ў Балыгі.

— Зямлі пакінутай сапраўды шмат навокал, ды калі не вельмі сваёй маеш, дык ніхто не хоча табе даць больш. У Цялушках цяпер трое гаспадароў за пенсію перадалі дзяржаве каля дваццаці гектараў, якія ўзяліся загаспадарыць тыя, што і сваёй зямлі маюць удосталь. Бяднейшым нічога не дасталася. Ёсць яшчэ каля дваццаці двух гектараў зямлі, якую апрацоўвае сельскагаспадарчы гурток з Паўлаў. Але якое там гэта абраблянне яе — толькі варочаюць скібы з боку на бок, а прыйдзе жніво, то вярхі камбайнам пазбіваюць, бо збожжа слабое... Вядома, бязгноіца! Вось гэту зямлю вёска наша намагалася забраць і падзяліць яе паміж сваімі, руку гаспадарскую прыкласці да яе... Ды адмовілі. Чаму, хто іх ведае?!

**Міхась Матвеюк**

## Задаволены гуране, што добра іх скляпова Граня!

У краме ў Гуранах, што ў Крынкаўскай гміне, ужо амаль дваццаць гадоў працуе прадаўшчыцай усімі шанаваная Граня Шчасновіч. Яна стараецца, каб у краме было ўсё, што патрэбна людзям. За пакупкамі прыходзяць сюды не толькі жыхары Гуранаў, але і суседніх вёсак, Свідзялоўкі і Грыбоўшчыны.

На Граню Шчасновіч не было ніводнай скаргі. У яе ніколі не здарылася манка. Калі хто па-прыяцельску пажартуе:

*Пані Гранка,*
*у пані ніколі няма манка,*

дык Граня Шчасновіч адказвае жартаўніку:

*Манка — гэта толькі абманка,*
*не бяры і галавы не дуры!*

Гуранаўцы палюбілі сваю сімпатычную „скляповую“. У мясцовай краме не пачуеш брыдкага слова.

**Т. К.**

## ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

Пятага жніўня Браніслаў В. з Аўгустова легкавой машынай „Шкода“ забіў Браніславу А., якая раптоўна выйшла з-за аўтобуса, што стаяў на прыпынку ПКС у Бярозаве ля Дубровы.

Адвячоркам таго ж дня згарэла ў Чаромсе-Асадзе драўляная павець Віктара Д., у якой знаходзіўся матацыкл „Іж“ і крайзэга.

А ўдзень — каля Дабраміля за Бельскам Антон М. разбіў аб прыдарожнае дрэва машыну „Стар-29“. Ён не меў шафёрскіх правоў. У выніку катастрофы загінуў лёгкадумны шафёр гэтай машыны Ежы С. Выпадковыя пасажыры — Ліліяна З. з Гданьска і Юзэф Генрык С. з Беластока — моцна пакалечыліся і знаходзяцца на лячэнні ў бельскай бальніцы.



## Пішуць Іра і Эля

Я з сяброўкай хочам апісаць знаёмую вёску Лапухоўка — невялікую, у якой жыве дваццаць пяць гаспадароў. Дзяцей у гэтай вёсцы ёсць мала, больш — моладзі.

З культурай у Лапухоўцы не вельмі добра. Усе хлопцы, якім споўнілася шаснаццаць гадоў, кураць папяросы. Некаторыя з іх упіваюцца. Вечарамі часта ідуць яны ў суседнія вёскі, адкуль вяртаюцца позна, а другой гадзіне ночы. Вельмі ж любяць хваліцца; яны думаюць, што добра робяць.

Большасць лапухоўскай моладзі, аднак, вядзе сябе прыстойна. Калі стаяць старэйшыя людзі, дык хлопцы і дзяўчаты ўступаюць ім месца сесці.

**Іра Салавей і Эля Дудак**

## ГАСПАДАРЫ ЗАДАВОЛЕНЫ ІМ

Селянін з вёскі Грабавец, што ў Дубічаўскай гміне, Барыс Петручук мае ўласны малацільны агрэгат. Як кажуць — хто што любіць, дык тым і займаецца. Петручук любіць малацьбу. Яго агрэгат заўсёды добра дагледжаны і ніхто лепш не змалоціць збожжа, чым ён. Бывае, што за дзень ён абслугоўвае нават сем-восем гаспадарак.

Барыс Петручук малоціць не толькі ў сваёй вёсцы, але таксама і ў суседніх. Гаспадары вельмі задаволены яго акуратнай працай.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## ПРА ЯНКУ



Янка Апалінскі з'яўляецца вучнем восьмага класа пачатковай школы ў Пасынках. Жыве на хутары Зубава. Увесь свой вольны час ён прысвячае сельскагаспадарчым справам: умее касіць траву ды збожжа коннай касілкай або трактарам, апырскваць бульбу і лён, выбіраць трускалкі і здаваць іх на скупку... З Янкі выдатны вучань і вырасце з яго добры гаспадар.

**Джэны А.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

Чытачка „Нівы“ Галена І. з Чаромхі-асады ў пісьме да нас наракала на дрэнна пастаўленую справу скупкі жывёлы ў Чаромсе. У сувязі з яе пісьмом Кляшчэлеўскі ГС паведамляе:

Obecna waga jest przystosowana, czego pragnie Wasz korespondent, do wybijania na papierze wagi zwierzęcia. W miejscu ważenia żywca wywiesiliśmy ogłoszenie, że rolnik może żądać od wagowego potwierdzenia wagi poprzez wybicie na papierze, a wagowy został zobowiązany aby na każdorazowe żądanie rolnika wydał potwierdzenie wagi. Rolnicy na ogół nie mają pretensji co do ważenia a z wagą są zgodni i nie wnoszą do nas żadnych reklamacji i, jak dotąd, nie było takiego przypadku.

We wszystkich jednostkach upaństwowionych, a więc i w GS-ie, wszystkie wagi co roku są legalizowane, a więc należy wykluczyć wątpliwość, że waga jest niedobra. Rozbieżność wagi żywca po ważeniu w domu rolnika i na spędzie może być dlatego ponieważ rolnicy, owszem, wagi mają ale tych nie legalizują; są to wagi stare, które już swoje odsłużyły a mimo to rolnik używa ich. Za wagę na spędzie, oprócz wagowego, odpowiedzialny jest również klasyfikator z Zakładów Mięsnych, który sprawdza wagę zwierzęcia, gdyż to on a nie wagowy odpowiada materialnie. Klasyfikator wystawia na kwicie klasyfikacyjnym wagę i numer kolczyka, a rolnik, który będzie miał wątpliwości co do obiektywnej postawy wagowego przy ważeniu żywca, otrzyma potwierdzenie wagi.

А вось што піша нам Беластоцкі ВЗГС у сувязі з іншай справай:

... w związku z notatką w „Niwie” nr 23 (1006) z dnia 8.06.75 r. p.t. „Gdzie kupić?” WZGS „Samopomoc Chłopska” w Białymstoku Zakład Handlu w Bielsku Podlaskim podziela słuszność podniesionego w artykule zagadnienia co do trudności z nabyciem opielacza, nadmieniając przy tym, że trudności te nie wynikają z naszej złej woli czy ewentualnych zaniedbań odpowiedzialnych pracowników.

Sprawa poruszana przez Was nie jest przypadkowa, a zasadnicza część kłopotów setek podobnych spraw wynika z jeszcze niewystarczającej produkcji.

Dla podkreślenia i zobrazowania tej sprawy na podstawie tylko II kwartału podajemy, że na nasze zapotrzebowanie 300 sztuk opielaczy — nie przydzielono nam ani jednego...

**„Niwa” — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

## Кваліфікаваная дапамога

Нейкі рабы хлапчук разбіў шыбу пані Салавейчык.

— Ну, пападзешся ты мне! — крычала яна. — Ужо ты, шчанюк, надоўга мяне запомніш!

— Не думаю, — адказаў рабы· — І наогул пакіньце мяне ў спакоі — мы ж незнаёмы!

Пані Салавейчык адважна саскочыла з балкона ў пясочніцу і кінулася за хлапчуком.

— Брава! — усклікнуў рабы і ў момант залез на высокую браму.

Пані Салавейчык, працягваючы пагоню, палезла за ім, але сарвалася...

— Я ж па-добраму прасіў вас адчапіцца ад мяне, — спачувальна сказаў рабы, гледзячы на пані Салавейчык зверху ўніз.

Вечарам у „Какосе", прыкладваючы мокрую хустку да падбітага вока, пані Салавейчык скардзілася:

— Ён ужо быў у мяне ў руках. Левай я трымала яго за каўнер, а правай...

— Дарма, — сказаў мужчына, што сядзеў за суседнім столікам.

— Гэта чаму ж? — здзівілася пані Салавейчык.

— Яшчэ б секунда — і адлупцавала б я яго, як сідарава казу, ды паршывец стукнуў мяне і я ўпала...

— Вось бачыце, да чаго гэта прывяло, — сказаў мужчына. — Я педагог з вялікім стажам і, паверце, ведаю, што гавару. Трэба быць вельмі асцярожным з дзецьмі.

— Бадай што, маеце рацыю, — уздыхнуўшы, згадзілася пані Салавейчык і адняла хустку ад вока.

Педагог падыйшоў да нашага століка і пакланіўся.

— Як спецыяліст буду рад вам дапамагчы.

Мы запрасілі яго пасядзець з намі і, як потым аказалася, не дарэмна.

Праз два дні мы даведаліся, што здарэнне было шчасліва ўладжана.

— Гэты рабы нягоднік абяцаў папраўіцца, — расказвала пані Салавейчык, — прасіў у мяне прабачэння і пакляўся ніколі ў жыцці не грубіяніць.

— Педагог дапамог?

— Надзвычайна! Сама б ні за што не справілася.

— Да дзіцяці трэба ўмець падыйсці, — сказаў пан Куця.

— О-о-о! Настаўнік падыйшоў да яго дасканала. Ззаду!

— І што ж ён яму сказаў? — пацікавіўся пан Куця.

— Нічога, — адказала пані Салавейчык. — Гаварыла я.

— А педагог?

— Педагог трымаў яго за ногі! Адлупцавалі паршыўца з ахвотай!

А. Патэмкоўскі



— Прашу, прафесар, сядайце!..







— Няўжо тая самая Таццяна?

### Чарвяточына

*Навокал лес яловы.*
*Я гляную па баках —*
*І грыб сонцагаловы*
*Ужо ў маіх руках.*

*Ды ў рой каля абочыны*
*Я выкінуў яго:*
*Спаднізу чарвяточына*
*Пакрэмсала ўсяго.*

*Іду да леснічоўкі —*
*Хоць прагу наталю...*
*У садзе яблык жоўты*
*Сарваўся на зямлю.*

*Гляджу я зажурбочаны*
*На яблык наліўны —*
*І толькі чарвяточыны*
*З маіх бакоў адны.*

*Жывых істот шкадую:*
*Век не ўзніму руку!*
*І толькі патрабую*
*Пагібель чарвяку!*

Яўген Верабей

1 2 3

Сям'я.

### НЕ ПРАХОДЗІЛІ

Маленькі Вася, вучань першага класа, прыйшоў да дзядулі ў госці. Дзядуля пачаставаў яго мёдам, а потым даў аловак, сшытак і сказаў:

— Цяпер мы праверым, ці навучыўся ты пісаць. Напішы мне „тата і мама".

Вася памалу напісаў. А потым дзядуля паўзіраўся па хаце і прыкмеціў на печы сваю бабулю, якую звалі Палажкаю:

— А цяпер напішы мне „Палажка".

Вася глянуў на дзядулю і пакруціў галавою:

— Нас Палажкі ў школе яшчэ не вучылі.

## МІНІБАЙКІ

### АДНО З ДВУХ

„Адно з двух, — думаў Жолудзь падаючы, — альбо дубам вырасту, або свіння з'есць!"



**...Выкапаўшы яму, крычаў: «Ало! Мы шукаем таленты».**

**... Яго сябрам можа стаць толькі той, у каго розуму хопіць на дваіх.**

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ірэны Троц з Рудут, Валянціны Пашко, Зінаіды Флёрка з Беластока, Галіны Юзвюк з Барысаўкі, Веры і Марысі Манцюк з Мікуліч змяшчаем песню*

### CZEKA NA NAS ŚWIAT

**słowa: Krzysztof Logan**
**muzyka: Andrzej Rybiński**
**śpiewa: zespół Andrzej i Eliza**

Spróbuj złapać promień światła
Kiedy łowi cień
Spróbuj wstrzymać biegu czas
Kiedy niesie nowy dzień
Spróbuj schwytać ptaka w locie
Gdy do gniazda mknie
Namaluj dziecku świat
w którym życie bajką jest.

Czeka na nas świat
Pełen cnót i wad
Jeśli dobrze poznasz go
To uwierzysz, że jest piękny,
Czeka na nas świat
Pełen kłamstw i prawd
Mamy jeden świat na pół
Ty i ja, ty i ja.

Spróbuj schylić się nad biednym
Rzuć mu groszem w dłoń
Pozwól ludziom mieć swój sąd
Spróbuj dostrzec własny błąd.
Wciąż podsycaj naszą miłość
Niech płomieniem się tli
Na dzień dobry całuj mnie
W białe noce o mnie śnij.

Czeka na nas świat
Pełen cnót i wad

Jeśli dobrze poznasz go
To uwierzysz, że jest piękny.
Czeka na nas świat
Pełen kłamstw i prawd.
Mamy jeden świat na pół ty i ja
ty i ja.

## ГУМАР З

### У ШКОЛЕ

Настаўнік (да вучняў): — Хто скажа, як доўга Адам і Ева жылі ў раі?

Вучань Каско: — Я скажу.

— Ну...

— Пакуль яблыкі паспелі.



— У бюро паслуг гаварылі, што яна вопытная нянька.

### НОВЫ ВУЧАНЬ

У школу прыйшоў новы вучань, які заікаўся.

— Ты хадзіў у спецыяльную школу для дзяцей з дэфектамі мовы? — спытала настаўніца.

— Не, — адказаў хлапчук, — гэта ў мяне зрабілася само.

### СУР'ЁЗНАЯ ПРЫЧЫНА

— Пятрусёк, чаму ты дрэнна вучышся, а Васіль добра?

— Бо Васіль на два двары бліжэй да школы жыве.

### ЗАСПАКОІЎ

— Пеця, я купіла табе новы падручнік· Глядзі не запэцкай яго.

— Не хвалюйся, мама, я да яго нават і не дакрануся.

### У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

— Вова, калі ў цябе тата правярае дзённік?

— Калі псуецца тэлевізар.



Без слоў.




### ФАБРЫКАНТ „РАМАНАЎ ВЕКА"

Адзін з найбольш друкуемых пісьменнікаў у Канадзе — Дэт Рос. Ён апублікаваў дзвесце трыццаць чатыры раманы, больш чым шэсцьсот апавяданняў.

Звычайна Рос „выдае" па дзве кніжкі ў месяц· А аднойчы і зусім паставіў рэкорд: за пяць дзён настрачыў раман у семдзесят пяць тысяч слоў. Яго творы выдаюць мільённымі тыражамі і прадаюць на кожным паўночнаамерыканскім скрыжаванні. Хто ж такі гэты літаратар?

Да пяцідзесяці гадоў Рос перабраў мноства заняткаў і раптам аказаўся без работы. Вось тады і ён паспрабаваў узяцца за пяро. З адчаю, як цяпер сам прызнае.

Надзелены дарам пячы кніжкі, як бліны, ён аказаўся выдатным вытворцам „масавай літаратуры" — прымітыўных дэтэктываў.

Паэт Олдэн Ноулен, які інтэрв'юіраваў Роса, падлічыў, што яго паважаны калега „выкалачвае" не менш чым сто тысяч долараў у год. Падлічыў і засумаваў: самому паэту такія даходы і не сніліся.

— Э-э, не зайздросць, — сказаў Рос. — Працую, як катаржны, па адзінаццаць гадзін у дзень і зусім без выхадных. Адзінае, што магу сабе дазволіць, — суткі перадышкі перад новай кнігай. І так чатырнаццаты год запар. Ды цяпер, шчыра кажучы, і сам не магу інакш· Бо ў нас калі ўжо пачаў рабіць грошы — паспрабуй спыніся.

Так што няма чаго здзіўляцца, калі на просьбу штотыднёвіка „Канадзіан мэгэзін" запоўніць невялікую анкету, што распаўсюджвалася сярод канадскіх пісьменнікаў, Рос адказаў:

— Напішу, калі заплаціце па пяць долараў за слова.




**Не ў кожнага хапае розуму прыкідвацца дурнем.**